Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3
Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.
**Перамена адрэса 30 грошы.**
Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 21 (34). Вільня, Субота, 13-га сакавіка 1926 г. Год II.



## Да ўсіх нашых падпішчыкаў і прыяцеляў.

*Грамадзяне*!

Неаднакроць да нас прыходзілі вашыя скаргі на тое, што наша газэта **дорага каштуе**, што яна вам не па сілам у цяперашнія часы агульнае руіны і галіты.

Скаргі — зусім слушныя. Але-ж справа ў тым, што **парадзіць бядзе можаце якраз толькі вы самі**, нашы падпішчыкі, чытачы і прыяцелі.

Думае мо' хто з вас, што выдаўцы газэты маюць нейкую матэрыяльную карысьць, нейкі даход з яе?! Ды нічога падобнага! Калі-б не дапамога нашага грамадзянства і спагадаючых нам паслоў, газэта—пры сучаснай лічбе яе падпішчыкаў—жыць не магла-бы.

Вось і хочам тут усім нашым спагадчыкам, усім, што жывуць аднэй з намі думкай і адным супольным імкненьнем, растлумачыць палажэньне газэты і той шлях, які можа даць нам магчымасьць **зьменшыць падпісную цану**, ці за старую цану выпускаць „Беларускую Ніву“ часьцей.

Галоўныя выдаткі газэты — гэта набор (складаньне) ў друкарні, адбіваньне на машыне, рассылка поштай, утрыманьне працаўнікоў адміністрацыі і рэдакцыі, якія, каб працаваць, мусяць-жа мець з чаго жыць. Вось-жа такія выдаткі, як складаньне газэты і ўтрыманьне рэдакцыі і адміністрацыі, пры друку газэты ў тым ліку, як ёсьць цяпер, **абходзяцца зусім гэтулькі-ж, як і пры друку ў пяцёх, шасьцёх, ці дзесяцёх тысячах**, а за **надрукаваньне** кожнае **новае тысячы** экзэмпляраў да ўсіх гэтых асноўных выдаткаў дадаецца **адно толькі кошт адбіваньня на машыне**, паперы і аплаты пошты. Гэтак выпуск кожнае новае тысячы **экзэмпляраў** газэты каштуе агулам шмат **менш**, чым дае падпіска за яе.

З гэтага простага рахунку ясна кожнаму, што на новых дзьвюх-трох тысячах мы мелі-бы даход, які і даў-бы нам магчымасьць ці то **панізіць цану падпіскі, ці за старую цану выпускаць газэту часьцей.**

Грамадзяне! **Ад вас залежыць зьдзейсьніць гэта, вы—і толькі вы!**—можаце нам памагчы зрабіць наш орган больш даступным кожнаму па цане! Трэба толькі, **каб кожны з вас прыдбаў нам аднаго-двух падпішчыкаў**!

І мы зварачаемся да вас з гарачым заклікам: памажэце нам і **сабе самым** у гэтым!

Трэба павясьці **шыбкую і дружную агітацыю** па нашых вёсках і мястэчках, **каб усюды выпісвалі „Беларускую Ніву“**. І рабіць гэта трэба не адкладаючы—зараз, каб **да 25 сакавіка** мы маглі-бы зрабіць падрахунак новых падпішчыкаў і **ад 1 красавіка** распачаць высылку газэты **на новых варунках.**

Грамадзяне! Зразумейце, што газэта—гэта-ж **уласнасьць тых, хто яе выпісвае і чытае!** Яна—ваш таварыш і дарадца ў жыцьці, яна дапамагае вам прасьвятлеўшымі вачыма глядзець на сьвет і знайсьці ў ім **свой шлях і сваё месца.**

**Дык-жа ўсе—да дзела!** Памысны вынік нашага праекту залежыць ад таго, каб астаўшыяся да 25 сакавіка два тыдні кожын выкарыстаў дзеля **агітацыі на карысьць сваей газэты**, каб кожын прыдбаў нам хоць двух ці навет аднаго новага падпішчыка!

## Пагрозы коаліцыйнаму ураду.

Калі тварыўся „коаліцыйны“ ўрад пана Скшыньскага, у якім зыйшліся прадстаўнікі дзьвюх змагаючыхся між сабой клясаў: буржуазіі і работнікаў (партыя ППС), мы наперад ня сулілі яму доўгага жыцьця. Як ні старaліся *шляхоцкія сынкі*, ашуканствам атрымаўшыя даверые чаткі работніцкае масы Польшчы, ладзіць з сваімі *бацькамі—абшарнікамі ды фабрыкантамі*, ім не магло ўдацца засыпаць тую прорву, што дзеліць два сьветы: сьвет працоўных і сьвет эксплёататараў. І кроў работнікаў, пралітая ў Калішу і іншых местах Польшчы ў часе ўрадаваньня пэпэсаўска-капіталістычнай „коаліцыі“, чырвонай плямай закляйміла павадыроў партыі ППС.

Каб ратаваць свае ўплывы ў работніцкіх масах, якія таюць з дня на дзень, павадыры ППС у апошнія дні пачалі як-быццам „бунтавацца“ проці сваіх буржуазных калегаў у ўрадзе. Так, на паседжаньні бюджэтнае камісіі 10 марца за прапазіцыю „вызваленцаў“ адмовіць у выдачы міністру ўнутраных спраў Рачкевічу так-званых „дыспозыцыйных сум“ (грошы, якія пан міністар можа расходаваць безадчотна, і з якіх кормяцца розныя Павлюкевічы і т. п.), падалі свае галасы ня толькі апазіцыйныя партыі, але і *дзьве ўрадавыя*: *ППС і НПР* (партыя работнікаў нацыяналістаў).....

Гэты выпадак галасаваньня ўрадавых партыяў проці „*свайго-ж*“ ураду—вельмі знаменны: ён паказуе, што тая *ўнутраная* барацьба, якая йдзе ў Польшчы паміж працоўнымі і буржуазіяй, робіць *абсалютна немагчымым* супрацоўніцтва прадстаўнікоў работніцкіх партыяў з прадстаўнікамі капіталістаў, абшарнікаў і сялян-кулакоў—у адным „коаліцыйным“ урадзе. Але ёсьць і другая пагроза істнаваньню ўраду пана Скшыньскага, якая йдзе *звонку*.

Яшчэ задоўга да адкрыцьця сэсіі Лігі Народаў, якая толькі-што пачалася ў Жэнэве, цэлы рад польскіх газэт папераджаў, што, калі пан Скшыньскі не даб'ецца для Польшчы сталага мейсца ў Радзе Лігі, дык урад яго—ўпадзе. З таго асьвятленьня, якое мы ў папярэднім нумары нашае газэты далі справе спрэчкі аб сталае мейсца Польшчы ў Радзе Лігі, ясна відаць, што тут справа йдзе не аб „амбіцыі“ староньнікаў „моцарствовае“ палітыкі Польшчы, але *аб самае становішча Польшчы ў Эўропе наагул*, навет — *аб яе дзяржаўны быт*. Дык няма нічога дзіўнага ў тым, што, калі ўраду пана Скшыньскага ня ўдасцца зьдзейсьніць сваіх дамаганьняў, ён будзе прымушаны выйсьці ў адстаўку....

І вось цяпер сам пан прэм'ер асабіста пацьвярдзіў гэтыя мяркаваньні польскіх газэт: ён афіцыяльна заявіў карэспандэнту венскае нямецкае газэты „Neue Freie Presse“:

„Пакуль-што, адносна да пашыранай у Жэнэве чуткі, што Польшча выступіць з Лігі ў прыпадку няпрызнаньня ей вымаганага мейсца, магу сказаць адно: што чутка гэтая—непраўдзівая, *паскольку справа йдзе аб маю асобу*. *Я* не заяўлю аб выхадзе Польшчы з Лігі, аднак, мушу спадзявацца, што, калі вярнуся да краю, не дабіўшыся спаўненьня дамаганьня Польшчы, дык *мой габінэт будзе скінуты*“.

Мы думаем, што гэтая заява пана Скшыньскага не зьяўляецца простым спосабам напалохаць сяброў Лігі Народаў і гэтак прымусіць іх прыняць Польшчу ў Раду Лігі. Праўда, выхад Польшчы з Лігі прымусіў бы польскіх палітыкаў шукаць для сябе апоры на Усходзе—ў СССР, і ў словах пана прэм'ера ёсьць укрытая і гэткая пагроза. Але, як у нас ужо выясьнялася, грозьба гэтая зьяўляецца пустой, пакуль у Польшчы ўладу трымае *буржуазія*. І навет адстаўка п. Скшыньскага зусім не адаб'ецца на пануючым становішчы польскае буржуазіі.

Праўда, правал у Жэнэве, аб магчымасьці якога гавора ўжо сам пан Скшыньскі, гэта правал зусім не яго асабістае палітыкі, а *правал пануючых у Польшчы буржуазных клясаў наагул*, і лёгічным вынікам паражэньня Польшчы на форуме Лігі Народаў *мусіла-б* быць і паражэньне буржуазнае ўлады ў Польшчы. Ці польскі народ зробе гэткі вывад, пакажа найбліжэйшая будучына.

## Агульны Збор Лігі Народаў.

8 сакавіка адчыніліся паседжаньні Агульнага Збору Лігі Народаў. 36 галасамі з агульнай лічбы 48 выбраны Старшынёй Збору партугальскі прэм'ер да-Коста. І на гэтым, здаецца, пакульшто і скончыліся ўсе афіцыяльныя працы Лігі.. Здаецца, не адбылося навет, як было прадугледжана, і паседжаньня Рады Лігі, а замест яго нейкая „тайная нарада“ яе галоўных сяброў, паведаміўшых толькі адзін аднаго аб **няўдалых перагаворах з нямецкай дэлегацыяй.**

Нямецкая дэлегацыя рашуча і становуча стаіць на сваім, заяўляючы, што дапушчэньне аднaчасна з Нямеччынай уваходу якой-сь іншай дзяржавы ў Раду змусіць нямецкі ўрад устрымацца ад уваходу Нямеччыны ў склад Лігі наагул.

Перагаворы йшлі бяз учасьця Брыяна, які толькі ў сераду ўвечары, ужо ізноў як прэм'ер і міністар замежных спраў новага ўраду, выехаў з Парыжу ў Жэнэву.

Як сьцьвярджаюць амаль ня ўсе карэспандэнты з Жэнэвы, усе высокія дэлегаты заняліся ўзаемным—**шантажам!**—Нямецкія газэты пішуць, што саюзьнікі шантажуюць немцаў, змушаючы да ўступак—пад пагрозай... зьвярнуцца да самага вялікага прыяцеля іх — марш. Фоша, каб той сьцьвярдзіў, ці Нямеччына споўніла ўсе варункі разбраеньня, каб увайсьці ў Лігу...—„Але-ж Нямеччына—ня Аўстрыя і не Баўгарыя!— адказывае прэса..—Дый часы цяпер—ня тыя“...

Нямецкія дэлегаты на націск Чэмбэрлена адказалі, што вымаганая ад іх уступка выклікала-б ня толькі крызіс ураду, але і крызіс прэзыдэнцкі: паляцеў-бы сам Гіндэнбург. А што было-б далей,—няведама—дадаюць яны.

Але такі самы „малы шантаж“, як пішуць іншыя газэты, робяць і іншыя.. Прэм. Скшыньскі націскае на Чэмбэрлена, каб той прыхіліўся да дамаганьняў Польшчы. Той адказывае, што ня можа ісьці проці аднагалоснай апініі Брытанскай Імпэрыі, іначай яго ўрад паляціць уверх нагамі. На гэта п. Скшыньскі адказывае (ў размове з журналістамі, паўтараючы, відаць, тое, што, казаў асабіста Чэмбэрлену), што ён зусім ня зьбіраецца—ў выпадку паражэньня Польшчы ў Лізе—праклямаваць выхад Польшчы з Лігі і зблізэньне яе да СССР... Гэта—няпраўда: ён, Скшыньскі, і яго, Скшыньскага, урад гэтага ня зробіць. Але пэўна і тое, што ён, Скшыньскі, з усім сваім урадам, прыехаўшы ў Варшаву з Жэнэвы з пустымі рукамі, паляціць далоў... А на яго мейсца могуць прыйсьці больш левыя группы... А што ўжо новая коаліцыя зробіць, аб гэтым ён, Скшыньскі, ня ведае, а можа толькі са страхам дагадвацца...

Вось табе, пане Чэмбэрлене: ёсьць і ў Польшчы публічная апінія, як і ў Англіі...

Але і польская прэса піша аб шантажу — пэўна-ж перад усім нямецкім.

„Gaz. Por. Warsz.“ кажа: „Нямецкі шантаж, шантаж такі цынічны, раскелзаны, якога яшчэ ня бачыў сьвет“. Але ў далейшым аказываецца, што „шантажуюць“ за і замест немцаў — бэльгійскі прэм. Вандэрвэльдэ, як галава ўсяго II Інтэрнацыяналу, бо ўвесь міжнародавы сацыялізм выразна стануў на бок Нямеччыны. „Шантажуе“ на карысьць Нямеччыны і Швэцыя ў асобе свайго новага прэм'ера Ундэна.

Цікавая, мімаходам зробленая рэвэляцыя эндэцкага афіцыёзу, што былы бэльгійскі прэм'ер Юманс зьляцеў за тое, што быў... прыхільнікам Польшчы і хацеў пусьціць яе ў Раду...

„Шантажуе“ ўрэшце на карысьць тэй-жа Нямеччыны і афіцыёз самай Лігі Народаў—француская газэта „Журналь дэ Жэнэв“, у якім ведамы публіцыст Мартэн піша, што „ўваход Польшчы ў Раду Лігі зусім не павінен цікавіць Францыю: бо гэта-ж — дробная справа ў агульным жыцьці Эўропы“...

Дык пакуль што — за тры дні сваіх размоў і нарад за кулісамі Лігі—найвыдатнейшыя і адказныя дыплëматы буржуазнай Эўропы займаюцца толькі—узаемным „шантажам“... А бедная Ліга—трашчыць па ўсім швам, пагражаючы камплетным развалам...

# Аб чым пішуць.

### Няўжо-ж запраўды аднадумцы?!

Вярнуўшыся з падарожы ў ССРР і ў Радавую Беларусь, пасол Ярэміч надрукаваў у сваім органе „Сялянская Ніва“ стацьцю, у якой як быццам жыўцом сьпісывае з эндэцкіх газэт „верыгодныя“ апісаньні „краіны дзікага тэрору“ і т. п. Гледзячы вачыма польскае буржуазіі, пан Ярэміч таму добраму, што павінна-б было служыць прыкладам для Польшчы ў адносінах да беларусаў, пасьвячае адно толькі—тры радкі! Затое-ж не шкадуе месца на маляваньне работніцка-сялянскае рэспублікі самымі панурымі фарбамі.

Апісаньне Радавае Беларусі так спадабалася дэфэнзыўнаму „Беларускаму Слову“, што прававадыр гэтае газэты, „доктар“ Павлюкевіч, перадрукаваўшы стацьцю пана Ярэміча, піша аб ёй дасловна гэтак:

> Мы з вялікай прыемнасьцю зьмяшчаем гэтую рэвэляцыйную характэрыстыку „Савецкай Беларусі“ і падкрэсьліваем, што, ня гледзячы на частыя прынцыповыя разыходжаньні з п. Ярэмічам, яго характэрыстыка „Савецкай Беларусі“ — зусім ідэнтычна з нашай, якую мы ўжо ня раз падавалі на шпальтах нашай газэты“.

Але гэтым „захвыты“ не канчаюцца: бо-ж на канцы нумару дэфэнзыўны орган „любоўна“ жартуе з партыйнага таварыша пана Ярэміча, пасла Рагулі, і... абяцуе яму на новых выбарах пасольскі мандат!

Справа толькі ў тым, што мандаты дае... народ!

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### У СОЙМЕ.

Як ведама, паседжаньні Сойму адложаны да 16 сакавіка.

На паседжаньне 16./III. уложана павестка, у складзе якой найбольш цікавым пунктам стаіць—справаздача спэцыяльнай „вастрожнай камісіі“ Сойму аб парадках і звычаях, пануючых у польскіх вастрогах. Дакладчык камісіі—п. Тугутт.

Штосьці больш году, здаецца, „рэдагавала“ камісія свае ўражаньні. Ведама-ж, трэба было апрацаваць належны „мастацка-далікатны стыль“, аднолькава здаваляючы польскую правіцу, як і польскую лявіцу.

Калі справаздача гатова, дык пэўна-ж і супольны „стыль“—знойдзены.

## Заграніцай.

### Новы ўрад старога Брыяна.

Уначы на 11-га сакавіка Брыяну ўдалося злажыць новы габінэт—з 10 паслоў і 3 сэнатараў, у які ўваходзяць амаль ня ўсе выдатнейшыя радыкалы, радыкал-сацыялісты і сацыялісты-рэспубліканцы. Сацыялісты ізноў не ўвайшлі ў габінэт.

### Канфлікт між Турцыяй і Ангіяй трывае.

Турэцкі ўрад рашуча адмовіўся ад учасьця — на запросіны Лігі Народаў — у перагаворах у справе англійскага мандату ў Іраку (былая правінцыя Турцыі, якую папросту захапіла гвалтам Англія).

### Наступленьне Абд-Эль-Крыма.

З Парыжа пішуць, што гішпанскае наступленьне ў Марокко зусім не ўдалося. Рад быццам-то ўжо пакарыўшыхся плямён ізноў узяўся за аружжа. Гішпанскія войскі нясуць вялікія страты людзьмі. Рыфэнам удалося прарваць гішпанскі фронт у некалькіх мейсцах і амаль не акружыць важнае места Тэтуан.

### Узнаўленьне баёў у Сірыі.

Парыжскія газэты паведамляюць, што навакол м. Дыяза ідуць крывавыя баі, у якіх забіты 165 і ранены 103 паўстанцы. А французаў?...

Горача ў вялікім месьце Дамаску, бо консулы заграмічных дзяржаў раюць сваім землякам — пакінуць места...

### Сарваньне перагавораў між Радамі і Чангам.

Радавая прэса паведамляе, што з прычыны непрымірымага становішча генарала Чанг-Тсо-Ліна перагаворы між радавай дэлегацыяй і яго паўнамоцнікамі аб паразуменьні і размежаваньні ўплываў на Далёкім Усходзе—сарваны. Гэты зрыў перагавораў, можа, як сцьвярджае радавая прэса, выклікаць вельмі паважныя скуткі.

# ХРОНІКА.

**Забарона вулічнага збору на карысьць беларускага прытулку.** Як гэта заўсёды з намі робіцца,—як пайшлі прасіць дазвол на вулічны збор для беларускага прытулку, то ў камісарыяце Ураду „bardzo grzecznie“ абяцалі, што дазвол дадуць.— Да збору гатовіліся, — панясьлі пэўныя кошты, і напярэдадні дазволу ня далі.

Паміраймце, беларускія дзеці, з голаду, бо-ж урад не дапаможа!

**Суд над грам. Канчэўскім і вучн. Салагубам.** 9. III. 26 г. у апэляцыйным судзе разглядалася справа грам. Канчэўскага і вучня Салагуба, абвінавачваных у камунізьме.

На судзе старшынстваваў судзьдзя Бохвіц; з боку пракуратуры выступаў, як экспэрт, вядомы Снарскі—шэф варшаўскай дэфэнзывы; бараніў адв. Родзевіч.

Гр. Канчэўскаму суд кары не паменшыў, пакінуўшы прысуджаныя акружным судом 4 гады катаргі і не залічыўшы часу, што сядзеў да суда; вуч. Салагубу зьнялі 1 год, залічыўшы папярэдні вастрожны час—тры месяцы, так што засталося яму адсядзець яшчэ дзевяць месяцаў.

**Лекцыя А. Трэпкі.** У мінулую нядзелю, 7-га сакавіка, у салі Беларускае Гімназіі ў Вільні адбылася чародная лекцыя, уладжаная Беларускім Студэнцкім Саюзам. Чытаў ведамы беларускі культурны дзеяч, грам. Антон Трэпка, на тэму: „Машына ў жыцьці чалавека“.

У больш чым гадзіннай лекцыі грам Трэпка высьвятліў тое вялізарнае значэньне машыны, якое выявілася перад усім у эканоміі працы. Машына—гэта тая магутная сіла, якая дапамагла працоўным агранічыць іх катаржную работу 8-мю гадзінамі, а з далейшым поступам тэхнікі можа давясьці лічбу неабходных гадзін працы да 6, 4, ці йшчэ менш. Машына — гэта сіла, якая нясе вызваленьне працоўным наагул.

Саля была поўная моладзі і прадстаўнікоў старэйшага грамадзянства; лектару дзякавалі гучнымі воплескамі.

**Як папасьці ў ССРР?** З прычыны частых зваротаў да нашае Рэдакцыі з пытаньнямі: як і хто можа ўехаць у ССРР? — падаем тут жменю інфармацыяў, пададзеных у № 37 „Сав. Белар.“ з 16 лютага с. г.

Асобы, якія жывуць за межамі СССР, але жадаюць прыехаць у Савецкі Саюз, павінны зьвярнуцца з адпаведным хадайніцтвам у бліжэйшае паўнаважнае прадстаўніцтва, або консульства СССР заграніцай.

Да гэтай просьбы прыкладаецца: абавязацельства сваякоў, што жывуць у межах СССР, аб тым, што яны згаджаюцца ўзяць на сваё ўтрыманьне асобу, якая жадае прыехаць сюды, а таксама, што яны самі забясьпечаны патрэбнымі сродкамі.

Такімі пасьведчаньнямі служаць: пасьведчаньні з месца работы, або службы, пасьведчаньні зямельных установ, што асоба мае зямельны надзел і прасіцель ёй патрэбен, як работнік, а таксама прадставіць справку аб плацяжы падаходна-маемаснага падатку.

Подпіс на абавязацельстве павінен быць заверан у гарадох натарыяльнымі канторамі, а ў сельскіх мясцовасьцях—сельсаветамі і райвыканкомамі.

Памянёныя пасьведчаньні могуць выдавацца толькі па хадайнічаньні асоб, якія жывуць у межах ССРР, і павінны перасылацца заграніцу праз Управу Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Замежных Спраў СССР пры ўрадзе БССР, пры ўмове аплаты консульскага збору ў суме 4 руб. 40 кап. Гэтыя дакумэнты могуць здавацца ў сельсаветы і райвыканкомы для перасылкі іх у Управу Упаўнаважаных праз Сэкрэтарыяты Акруговых Камітэтаў.

Дастаўка вышэйпамянёных абавязацельстваў адносіцца выключна да асоб старых, недарослых, жанок, мужы якіх знаходзяцца ў СССР, і невялікая катэгорыя грамадзянак СССР, якія вышлі замуж за палонных іншых краін і паехалі з імі на радзіму, а ў сучасны момант па розных прычынах (сьмерць мужа, развод і г. д.), прымушаны шукаць прытулку ў сваіх сваякоў.

**Афіцыяльны курс грошы на 12 сакавіка.** Даляр — 7 зл. 60 гр. Залаты рубель — 3 зл. 91 грошы.

„Беларуская Ніва“, адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны сьвядомы беларус павінен чытаць, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць сваей газэце.

# „Ад імя Беларускага Народу“.

Як ведама, здаецца йшчэ ў 1920 годзе пан Вацлаў Ластоўскі, эсэраўскі „прэм'ер“, „падараваў“ Вільню разам з усей Віленшчынай і Горадзеншчынай — **Літве.** За падпісаньне акту аб гэтай перадачы Беларускае зямлі чужым—ад імя Беларускага Народу!—літоўскі ўрад абязаўся выплаціць „ураду“ пана Ластоўскага адзін мільён нямецкіх марак...

Надовячы абшарніцкае „Słowo“ надрукавала заяву „доктара“ Павлюкевіча, які—ізноў-жа ад імя Беларускага Народу! — падараваў Вільню і ўсю Віленскую зямлю — **Польшчы**... У якой цыфры выразілася шчодрасьць польскага ўраду, мы ня ведаем.

Ведам затое адно: калі ўжо да таго дайшло, што права на валаданьне Вільняй і Літва і Польшча грунтуюць на падобных заявах — усё ад імя Беларускага Народу! — самазваных прадстаўнікоў нашага народу тыпу Ластоўскіх і Павлюкевічаў,—ну, дык, відаць, права гэнае дужа няпэўнае!...

# Карэспандэнцыі.

### Жыцьцё работнікаў.

(Глыбокае).

„У аб'яднаньні моц“, кажа народная прыказка. Вось нарэшце нашы работнікі і работніцы зразумелі гэта і залажылі „Саюз будаўляных работнікаў“. І якраз на часе, бо надта душыць беззрабоцьце працоўныя масы. Жыць стала амаль немагчыма. Голад заглядае ў вакно бедакоў. Супольнымі сіламі можна толькі вырвацца з бяды. Шкада, што работнік да гэтага часу, дзякуючы сваей цемнаце, спаў і не разумеў спосабаў змаганьня за свае жыцьцёвыя інтэрэсы. Але час настаў і ўжо заварушыліся. Ёсьць „Саюз“, а разам ёсьць магчымасьць сабрацца і абгаварыць сваю нядолю. Вось і 4 сакавіка с. г. сабраліся мы ў салі „Кіно“ дзеля абгаварываньня сваіх спраў. На гэты сход, на запросіны ўраду, прышоў і пасол Мятла, які прывітаў сход ад імя Белар. Сялянска-Работн. Грамады. У сваей гарачай прамове, ён нарысаваў малюнак барацьбы працоўных мас з буржуазіяй. Там, дзе ёсьць прафэсіянальныя арганізацыі, буржуазія мусіць ісьці на ўступкі, павінна лічыцца з сілай. Паасобку кожнага задушаць, скарыстаюцца з яго нядолі, але, згуртаваўшыся ў „Саюзы“, работнік можа змусіць лічыцца з ім, паправіць свае матарыяльныя варункі. „Праўда,— казаў, п. пасол,—за першых парах вы спаткаеце шмат перашкод з розных бакоў, але вытрывайце і „загляне сонца і ў наша ваконца“.

За шчырасьць, за зразуменьне нядолі працоўных мас;—саля надзяліла прамоўцу дружнымі воклясками.

Такія прамовы і сходы дужа карысны нашай маладой арганізацыі. Мы верым, што, калі сёньня дрэнна, то, змагаючыся, здабудзем лепшае заўтра. Нашы працадаўцы, як напр. тыя, якія пакінулі да 300 цёршчыкаў лёну бяз працы, ці наш соймік павятовы, кінуўшы не адну тысячу зл. на розныя самаходы для п. п. старастаў, а адмовіўшыся дапамагчы безработным,—не затрымаюць на паўдарозе нашую маладую арганізацыю. Аб'яднаўшыся, мы здолеем дабіцца паляпшэньня нашага жыцьця. Памыснае разьвіцьцё і згодная праца сяброў Саюзу дапаможа хутчэй дайсьці да вызваленьня працоўных мас. **Прысутны.**

### Штодзенныя жыцьцёвыя малюнкі

(Вязынская гм., Вялейскага пав.).

Пару слоў аб нашым жыцьці. Пачну ад гміннай рады і гміннага ўраду. Гміннуую раду — гэты характэрны для нашага жыцьця „самаўрад“ — выбраў абшарнік Гічэвіч, — ён-жа і старшынёю яе. „Радныя“ відаць таму і называюцца „раднымі“, што яны **рады**, што засядаюць разам з абшарнікам Гічэвічам. А ён іх за гэта частуе хвігамі—у знак свае панскае ласкі.

З пасярод гэтых панскіх падлізаў —„радных“ вельмі выдзяляецца п. І. В., які іграе ў панскую дудачку.—Гэтак раз рада абгаворвала справу, хто павінен папраўляць дарогу, што праходзіць праз абшары гэтага пана, ад м. Вязынь да в. Сосанка. — Адзін з радных заікнуўся, што той мусіць папраўляць, праз чыю зямлю яна праходзіць,—вось тут-жа і пачаставаў Гічэвіч гэтага сьмяльчука сваей панскай хвігай і дадаў: „я-ж лесу на масткі дам“. А падліза І. В. і падхапіў: „ну ці-ж не даволі гэтага“?! І пастанавілі, што сяляне мусяць правіць.

Была ў нас стойка, якая выматала дух у сялян;—дык цяпер рашылі наняць сталую стойку. І тут-жа ўхвалена плаціць не ад зямлі, а ад каня. Гічэвіч і другія абшарнікі меншага калібру ніколі раней не адбывалі стойкі і цяпер або нічога ня плацяць, або плацяць на роўні з беззямельнымі.

Адміністратар гміны—сэкрэтар яе п. Дубавік, уцякач з Меншчыны, душыць сялян рознымі фурманкамі. Так раз паехаў па дровы для школы —ясна, для польскай, бо беларускай не даюць; паехалі ў лес гэтага Гічэвіча, за што ён бярэ добрыя грошы. Там чамусьці дроў ня далі, — дык скамандавалі фурманкі назад,—заўтра другія будуць,—хоць гэта за 12 вёрст!

## Былыя эсэры у новай ролі.

Як мы даведаліся з зусім пэўнае крыніцы, апошні з недабіткаў істнаваўшае некалі партыі Беларускіх Сацыялістаў Рэвалюцыянэраў, **Тамаш Грыб** (студэнт пражскага ўнівэрсытэту), паступіў у лік супрацоўнікаў **дэфэнзыўнае арганізацыі** „доктара“ Павлюкевіча. Сваё супрацоўніцтва на новым становішчы ён распачаў з таго, што надрукаваў у польскім дэфэнзыўным органе ў беларускай мове („Беларускае Слово“) агідны і брудны пасквіль на беларускага дзеяча Антона Луцкевіча, перасьледаванага польскаю ўладаю.

Трэба думаць, што за першай услугай дэфэнзыве пойдуць і другія падобныя. Відаць, былы эсэр гэтак хоча **купіць сабе права на паварот з Прагі на Бацькаўшчыну—пад Польшчу.**

Перасьцерагаем аб гэтым нашу моладзь у Празе, якая паехала туды з Заходняе Беларусі і маніцца варочацца сюды,—каб ведала, з кім мае дзела...

Характэрна, што адзіны супрацоўнік Грыба ў Празе, **Язэп Мамонька**, які некалі судзіўся ў Менску за звычайны бандыцкі напад,—скандальна скампрамітаваўся сувязяй з нямецкімі манархістамі, як аб тым надрукавана ў кнізе Е. Ладнова „Огнемъ и мечомъ, голодомъ и болѣзнями“, выданай за грошы... польскага генаральнага штабу! Ад немцаў Мамонька хацеў выманіць грошы на... барацьбу з палякамі, пагражаючы, што інакш „паверне аглоблі ў другі бок“...

Ну, вось і павярнуў!..

---

Гмінны фэльчар, таксама ўцякач з Меншчыны, — кім ён ня служыць: і скарбнік школьнага камітэту, і на авіацыю зьбірае, і тэатры польскія арганізуе і пры іх буфэты і гарэлку там локча,—а прыедзь хворы,—дык шчасьце, калі да 12 гадз.: паглядзіць сяк-так, дасьць рацэпт і — на ўсе чатыры бакі валі хворы; а калі, скажам, у хворага рана, — то ніколі не перавяжа, бо ані ваты, ані марлі ня мае, хоць гміна дала яму субсыдыю на гэтыя матэрыялы. Калі-ж хворы прыехаў пасьля 12 гадз. дня, або ў сьвята, дык бяз грошай і гаварыць ня будзе.

Камандант паліцыі ў нас п. Караленка, таксама ўцякач з Меншчыны, ніколі цьвярозым ня бывае, ды часьценька валяецца на вуліцы. У яго районе „ціш ды благадаць“. — Гэта нічога, што часамі на пастарунку людзі равуць, на тое гэта й пастарунак—„on nie bije, lecz tylko bada“! (ня б'е, толькі дапытвае!).

К слову і аб нашым папу М. Сьмірнову, які ўцёк за „грашкі“ з Горадзеншчыны. Прышоў да нас голы, як палец, а цяпер на 40 падводаў не забярэш.—Добра ён смокча з людзей сокі. Калі ў жыхаркі У. М. не хапіла двох злотых на паніхіду за мужа, дык наш „пастыр“ так стукнуў дзьвярыма, уцякаючы з царквы, жто аж сьцены задрыжэлі, а калі дадалі гэтыя 2 зл., дык стаў анёлам. У часе шлюбу І. Г. хісталася польская валюта, дык наш „ацец“ мусі гадзін са тры манежыў гэтага маладога, пакуль ня вырваў курсавой розьніцы—ня гледзячы на тое, што перад гэтым яны ўмовіліся.—Вось жыцьцё! **Свой.**

### Самы сабе збудавалі школу.

(В. Капачы, Палачанскай гм., Валожынскага пав.).

Сяляне нашай вёскі пераканаліся, што бяз школы немагчыма, і рашылі самы збудаваць яе. Выбралі разумнага і энэргічнага падсолтыса Івана Вірынскага, які зарганізаваў працу пры будаваньні школы. Трэба сказаць, што і войт наш з пісарам Ванькоўскім памаглі нам у гэтым добрым пачынаньні: яны далі нам 500 злотых.

Такім чынам пры ахвоце і жаданьні **нашы сяляне самы збудавалі саба школу.** **С. Н.**

**Ад Рэдакцыі.** Хай гэты добры прыклад пяроймуць і другія сяляне беларусы, бо трэба памятаць, што, калі што **мы здабудзем**, то толькі **дзякуючы сваім уласным высілкам і стараньням.**

### Вясковы спэктакль.

(В. Канюхі, Ляхаўскае гм.).

Канюхі ня сьпяць...

У нядзелю 28-га лютага с. г. ізноў наладзілі спэктакль. На гэты раз публіка ўбачыла „Залёты“ В. Дунін-Марцінкевіча. П'еса гэтая сама па сабе ўжо аджыла свой век; па зьместу яна ў цяперашні час не прадстаўляе ніякае вартасьці, а, уводзячы выразны падзел на „чорную і белую косьць“, павінна адыйсьці ў архіў, бо трэба-ж дбаць, каб пастаўленая п'еса прыносіла глядзельнікам маральную карысьць. Апошнюю могуць даць творы Ф. Аляхновіча, Я. Купалы і др., якім і павінны назначаць першае месца нашы аматары.

„Залёты“ ў Канюхах выйшлі не самавіта. Артысты-аматары мелі многа заган: часта адварачваліся ад публікі, каб укрыць сьмех, крыху мыляліся, быў вялікі недахват у рухах, мала адчувалася жыцьця ў гутарцы, бо словы падалі так манатонна, як дзіцячая няўдалая дэклямацыя якога-колечы вершу. Да ўсяго гэтага ў будынку (спэктакль ладзіўся ў магазыне, дзе перад вайной ссыпалі збожжа) было вельмі сьцюдзёна, ад чаго вавет у часе гульні публіка, грэючыся, добра стукала нагамі.

Аднак, ня гледзячы на ўсе гэтыя мінусы, прадстаўленьне зрабіла добрае ўражаньне на прысутных,—усе былі здаволены, доказам чаго былі тыя гучныя воплескі, якімі закончылася прадстаўленьне.

Трэба сказаць, што наладжаньне спэктаклю ў такой глухой вёсцы, як Канюхі, дзе так цяжка знайсьці ахвотнікаў, дзе асабліва сярод дзяўчат пануе няграматнасьць, а ў лучнасьці з гэтым нічым ня вытлумачаны дурны сорам паказацца на сцэне, дзе так шмат навет сярод „сярмяжнікаў“ і то як старых, так і маладых, няпрыхільнікаў, якія, не перабіраючы ў спосабах, патрапяць байкатаваць усе добрыя пачынаньні інтэлігентных адзінак, — вымагае вялікае энэргіі, моцнае волі. Дзеля гэтага слава арганізатарам і аматарам ахвотнікам! Вы ўсе, хто разумее важнасьць гэтае справы, не павінны апускаць рук, не павінны палохацца меншых і большых перашкодаў і таксама дурнога байкоту, а сьмела ісьці наперад! Хай другія вёскі бяруць прыклад з вас!.. **Nemo.**

### Як беларускія дзеткі разумеюць польскую школу.

(В. Матылькі, Сабакінскай гм., Лідзкага пав.).

У Матыльскай польскай школе вучыцель Сініла раз казаў вучням: „na jutro żeby każdy miał zeszyt“ і паказаў у руцэ сшыток.

Вучань Мацей Павядайка зразумеў, што сшыток трэба абшыць. — Прышоўшы дамоў, узяў шыла, голку і нітку і аблямаваў свой сшыток. Назаўтра, калі вучыцель спытаўся, ці ўсе маюць сшыткі, гэты вучань сказаў: „я зрабіў“ і паказаў абшыты сшыток.

— Паразумеліся! **Р.**

### „Тры бочкі золата“.

(Сабакінская парахвія, Лідзкага пав.).

Капаючы магілу на Сабакінскіх могілках, знайшлі медны абразок Божай Мацеры і струхнелыя косьці,—з чаго відаць, што абразок гэты быў уложаны калісь у магілу.

— Абразок аддалі сьвяшчэньніку Юстыну Шчаснаму.—Пашлі розныя чуткі: сказалі паліцыі, што знайшлі „тры бочкі золата“.

Абразок забралі ў паліцыю. Ужо рабілі „баданьне“—дзе падзелі тое золата. Але нічога няма. Тайная паліцыя і цяпер „ня сьпіць“,—усё сачыць. дзе „падзелі знойдзенае золато“?

Відаць, хочуць разбагацець! **Р.**

### Гаротнае жыцьцё.

(В. Далятычы, Наваградзкага пав.).

Як цёмная, цёмная ночка, паўзе у нас жыцьцё—гэтак нудна, тускла! Колькі тут гора, бяды ды нуды—трудна зьмерыць!

Падаткі непасільныя, ды й несправядлівыя. Зямлю, на якой і верас не расьце, залічылі да трэйцяй катэгорыі, і мусім плаціць па 5 зл. 12 гр. за дзесяціну. Падавалі просьбу ў Наваградак, але, як нябожчыку кадзіла,—памагло.

Асаднікам надавалі зямлі па 25—35 дз., а абрабляе яе наш брат, беларус;—самы-ж асаднікі паўбіваліся ў розныя „касы спулдзельчэ“ як, напр., асаднік Юрчык, Горскі, Галіцкі.

Заводзяць паны ў нас, „культуру“;—так, паміж дзялянкаю асадніка Падбарэцкага і Сянькевіча пракапалі канаву і пусьцілі воду з рэчкі. А вада—як вада, падыйшоўшы да дарогі, „пашла гуляць“, і цяпер замест дарогі — купальня! Ім то што?! А ты, браце беларусе, цярпі да „суднага дня“!

**Дал. Бадзяка.**

### Школа ці „шуры-муры“.

(В. Пяскі В. Есьмантаўскае гм., Горадзенскага пав.).

Ужо людцы добрыя пісалі, што замест прошанай намі беларускай школы далі нам польскую; — пісалі і тое, што польскага вучыцеля мы не прынялі, а прыняў яго рэнегат-вырадак Кавалеўскі. І прыняў ён ня з ідэі ці з якіх-небудзь вышэйшых пабуджэньняў, а прыняў таму, што мае маладую дачку—для яе прыняў; і не на тое, каб, можа, выдаць у выпадку гэтую сваю дачку за вучыцеля, бо вучыцель жанаты (жонка за Варшаваю), а прыняў толькі на зло беларусам і—каб устроіць дачцэ „прыемнасьці“.

Пасьля году вучэньня і не ўспамінай, каб дзеці ведалі літары, або пісалі. Дый гэта такі „вучыцель“, што, пасьля папраўленьня сшыткоў, яшчэ з капу можна знайсьці абмылак.

Дзеці прыходзяць у школу, а „вучыцель“ сьпіць! Тады ён устане і загадае дзяўчатам-вучаніцам скрабаць бульбу, а хлопчыкам-вучням курку скубсьці, і як навараць есьці „вучыцелю“ і ён наесца — то пачынае тады „вучыць“: кажа, каб дзеці сьпісалі яму праваслаўную малітву, і тады некуды ідзе, а дзеці на „лекцыі“ адны! А то бывае, выгане дзяцей на мароз, а сам, зачыніўшыся ў клясе, „гасьцей прымае“... А што там робіцца, аб гэтым людзі ў вёсцы ўсяпяк кажуць. Другі дзень, дык забярэ дзяцей у мароз і сам, падвязаўшы канькі, коўзаецца на возеры Бісьпінга.

Калі пакрыўдзіць вучань каталік вучня-праваслаўнага, дык нічога; а калі праваслаўны каталіка, дык возьме „вучыцель“ гэтага праваслаўнага за рукі і кажа, каб каталік біў праваслаўнага ў морду.

Змушае дзяцей, каб прынасілі яму мяса, яйкі, каўбасы і гэтаму падобныя рэчы.

Што ня вучыць дзяцей, дык хоць і ня спольшчыць, але навошта дэмаралізуе ня толькі дзяцей, але і моладзь старэйшую?!

Да адкрыцьця гэтае „шуры-мураўскай“ „школы“ некаторыя дзеці хадзілі да нашае вучыцелькі Ал. Бурневіч, дзе вучыліся пабеларуску, дык у працягу тыдня навучыліся больш, чым за год у гэтага „вучыцеля, і душы мелі чыстыя, ня ведалі таго маральнага бруду, у якім пэцкаюцца ў цяперашняй польскай школе.

**Сусед.**

### Напад на хлапцоўскую забаву.

(З Слонімшчыны).

14. II. ў часе забавы вясковай моладзі ў доме жыхара в. Касьцяне Івана Туляя, у хату ўварваўся паліцыянт Чамяроўскага пастарунку Сініцкі. Сініцкі, дастаўшы рэвальвэр, пачаў грозіць, што будзе страляць, калі не разойдуцца. Калі хлапцы кінуліся ўцякаць з хаты, баючыся сьмерці, дык Сініцкі пачаў біць уцякаючых рэвальвэрам па галавох і рваць адзежу. Такім чынам засталіся з разьбітымі галавамі хлапцы: Пётра Мароз, Іван Мароз, Андрэй Мароз, Міхась Жукоўскі і дзяўчаты: Юлька і Зося Мароз і шмат іншых. Вось дык дажыліся, што па Чамяроўскай гміне і забавы забаронены, ня толькі сходы.

15. II. калі Чамяроўскія хлапцы: Якім Міска, Андрэй Хвясеня, Міхась Іскрык, Андрэй Ціханчук, Іван Міска і Барыс Бурсэвіч ішлі на забаву ў вёску Вараб'евічы, на іх напалі два азброеныя паліцыянты з Чамяроўскага пастарунку Жыбура (№ 813) і Лонкевіч (№ 1884). Паліцыянты скамандавалі: „Ręce do góry, a to strzelać będziemy“! Хлапцы пападнімалі рукі. Паліцыянты пачалі аблапываць па кішанёх і, ведама, нічога не знайшлі. Тагды паліцыянты пачалі моцна біць Івана Міску па твары і выкручваць пальцы на руках. Бачачы, што бяда, рэшта хлапцоў пачала ўцякаць. Вырваўся і ўцёк так сама з акрываўленым тварам і Іван Міска. Тагды паліцыянты паднялі страляніну. Куля прайшла каля галавы Івана Міскі, але, дзякаваць Богу, ня раніла хлапца. Усе хлапцы аднак дайшлі да забавы ў Вараб'евічах, дзе Іван Міска аглядзеўся, што з кішані ў яго прапала 15 злотых. Праз поўгадзіны з'явіліся на забаву і нападаўшыя паліцыянты, разагналі забаву, а хлапцоў перапісалі. Грабяць, б'юць і плакаць не даюць...

**Сусед.**

## З веснавых настрояў.

Прачніся, дружа, ўстань бадзёрна!
Пакінь свой цяжкі сон і мары.
Зьвініць жаўронка сьпеў, уторна
Усходу, гімн той—вольны, жвавы.
Вясна-штукар ужо прышла
І волі сьцяг нам прынясла.

Гані ганебны сон—зьнявагу,
Даволі ў шапку спаць, нябога!
Зірні на ўсход!... Дадасьць адвагі
Жыцьця запал там маладога.
Бо жарты строіць з ім вясна....
Д'ямэнтам зіхаціць раса.

Вясной раса жыцьцё прыносе;
Расу п'юць кветкі на ўвасходзе.
Устаў касец. Каса сьвіргоча....
І спаць ён больш ужо ня хоча:
Чырвоны золак вабіць так.
Жыць вольным хоча нябарак.

**Ігнат Балагур**

---

### Добрыя „жарты“.

(Картуз-Бяроза, Косаўскага пав.).

Увосені на Яна Грыгор Шык, Кастусь Гуціч і асаднік Мікалай Бэнэцкі ехалі на кірмаш у Картуз-Бярозу.—У лесе на іх напалі бандыты з стрэльбамі і рэвальвэрамі. Асадніка Бэнэцкага павялі ў лес „на дапрос“, Г. Шыка палажылі на зямлю і прыказалі глядзець у другі бок. А ў К. Гуціча пыталіся, як паліцыя адносіцца да народу, ці ня бачыў людзей гэтакіх, як яны, кудыма дарога на Пінскія балоты, ды забралі ў Гуціча 10 даляраў і аддалі „атаману шайкі.—Гуціч прасіў, каб аддалі грошы, бо ехаў ён да доктара;—атаман нахмурыўся, а той, хто ўзяў грошы, прыцэліўся ў Гуціча з рэвальвэра і спытаўся ў атамана: „забіць“. — Атаман сказаў „пусьці“ і пусьцілі.

Потым грошы аддалі. Бэнэцкі з гэтага быў рад і потым, ад'ехаўшы, сказаў, што гэта была польская паліцыя—Берасьцейская школа... **Г.**

---

## Абразкі з падарожы.

Праваслаўныя грамніцы. Едзем у м. Лужкі, Дзісенскага павету.

Даволі вялікае мястэчка—на тракце Дзісна-Глыбокае.

Вось вялізарная будыніна: гэта „polska siedmio klasowa szkoła powszechna“ (ня цешцеся: ня нашая беларуская, хоць у Лужках і вакопіцах адны беларусы!).

Характэрная, — на жаль звычайная — сцэна. На школьным падворку, да „важнай“ паненкі — відаць вучыцелькі, падлятае хлопчык і нешта кажа. Што — ня чую; толькі чую голас „паненкі“: „Co?.. dla czego nie mówisz popolsku?“. Усё ясна: відаць, у гэтай школе „вялікія патрыёты“ забараняюць дзецям гаварыць на сваей мове нат' і на падворку...

А „кіроўнік“ гэтае школы зайшоў у сваім „патрыятызьме“ яшчэ далей. У нядзелю 14/II г. г. сабраў вучняў каталікоў і праваслаўных і павёў іх у касьцёл. Па якому праву гнаў ён у касьцёл праваслаўных,—ня ведаем.

Бацькі! — калі вы сьпіце, дык абудзіцеся! Стыд, сорам, ганьба!..

Заходжу ў царкву. Казаньне. Гэтак і сыпле бацюшка чыста „беларускія“ словы: „физически, совокупно, неукосьнительно, еже, аще, только“ і г. д. Нічога ня ўцяміў і выйшаў.

Вось і міравы суд. На салі дзесяткі са два сялян. Усюды гэтыя сяляне, — бо ведама ж, што на паноў ніхто не напіша пратаколу, ніхто не паскардзіцца: пан ніколі ня быў і ня будзе вінаватым...

А вось і дзіва: Ксёндз на судзе! Абвінавачвае нейкага, відаць, інтэлігентнага чалавека, які нечым лі-

стоўна абідзіў „пастыра". Справа канчаецца нічым. Але вось, дык пастыр. Замест да судзьдзі нябеснага, дык зьвярнуўся да судзьдзі зямнога. Чыста паевангельску: даравацьи, багаслаўляць і маліцца за сваіх ворагаў...

Адкуль гэты быў ксёндз, ня ведаю, людзі казалі, што з Празарок.

Вось працаўнік чыгункавы са ст. Загацьця. Бядак прыцягнуўся ажна за 35 в. Паліцыя зрабіла пратакол, што ягоная карова ўзыйшла на пуцявіну. Але судзьдзя,разабраўшы справу, апраўдывае бедака.

Гэта добра. Адно блага, што людзям трэба езьдзіць у суд за 35-40 в., а калі каму яшчэ патрэбны і сьведкі,—дык і зусім бяда! Даўней было неяк спрытней. Міравы судзьдзя езьдзіў па гмінах і судзіў. Было лёгка, добра і карысьней. Не зашкодзіла-б нашым паслам закрануць гэтую справу.

Яшчэ звычайнае здарэньне. У Лужках — „spółka inżenierów Kijowskich" будавала вайсковыя кашары. Людзі працавалі, працавалі, але ўжо год, як ня могуць атрымаць зробленага. Усё кажуць: „przydźcie wo wtorek", а калі прыходзяць у аўторак, дык адказваюць: „przyjść w sobotę". Гэтак прыйшло амаль не 52 аўторкі і 52 суботы, а грошыкаў няма, а яны патрэбны да-зарэзу.

Ну і „спулка"—чыстая скулка...

Бедная, гаротная, сярмяжная Беларусь, — усе на цябе: і вучыцялі, і папы, і ксянды, і паліцыя і ўсялякія „спулкі"!.. Але, як кажа расейская прыказка: „цярпі казак,—атаманам будзеш". **Зязюля.**

# З Радавае Беларусі.

### Барацьба з няпісьменнасьцю.

Дзеля папулярызацыі ідэй тав-ва „Прэч няпісьменнасьць" наладжана адпаведная кампанія з 25-га лютага да 10-га сакавіка.

### Новы пэдагагічны тэхнікум.

Галоўпрафасьветы мае адчыніць у сёлетнім годзе беларускі пэдагагічны тэхнікум у Мазыры.

### Новыя зборнікі.

У апошнія часы вышлі з друку наступныя маладняковскія зборнікі:

Вішнеўская, Пфляўмбаум, Бандарына—**калектыўны зборнік вершаў.**

Бобрык, Звонак, Туміловіч—**„Пунсовае раньне".**

**„Слуцкія песьняры"** (Шукайла, Відук, Сукала, Атава і Іда Чырвань).

### Пасяўная плошча БСРР.

Паводле вестак Наркамзему, пасяўная плошча сялянскіх гаспадарак БСРР за 1924 — 25 г. узрасла з 2.287.277 дзес. да 2.492.965 дзес. (на 9 прац.).

### Загатоўка лесу для сялян.

Каб рэгулярна дастаўляць дрэва ў адчыненыя ў малалясных акругах лясныя склады, у сёлетнім апэрацыйным годзе НК Земляробства мае загатовіць для іх 15.015 кубічных сажняў дроў і 2.255 куб. саж. лесаматар'ялаў.

Для апэрацый лясных складаў ім патрэбен банкаўскі крэдыт на люты, сакавік і красавік у суме 86.939 руб.

### Адбудова.

1.500.000 руб., якія асыгнованы Маскоўскім Камунальным Банкам на кватэрнае будаўніцтва БСРР, прэзыдыум Дзярж. Плян. Камісіі разьмеркаваў гэтак:—Менскай акрузе—520.000 р., Віцебскай—300.000 р., Бабруйскай—175.000 р., Магілеўскай—100.000 р., Барысаўскай—90.000 р., Аршанскай—80.000 р., Полацкай—100.000 р., Слуцкай — 60.000 р., Мазырскай — 40.000 р. і Калінінскай — 35.000 р.

Гэтыя сродкі павінны быць скарыстаны выключна на пашырэньне жылой плошчы.

У бягучым будаўнічым сэзоне Менскі аддзел камунальнай гаспадаркі мае адрамантаваць 20 каменных дамоў. На гэта будзе адпушчана 70.000 р.

### Працоўныя калектывы БСРР.

За апошні год працоўныя калектывы БСРР вырасьлі з 2500 да 6000 рабочых, пераважна за рахунак вытворчых.

Апроч таго, працоўныя калектывы перадалі ў дзяржаўную базу прамысловасьці звыш 500 рабочых.

Што датычыцца вытворчых вынікаў, то за апошняе паўгодзьдзе працоўныя калектывы выпусьцілі тавараў на суму 2.900.000 р. Агульны зварот па вытворчых, працоўных і гандлёвых калектывах за паўгодзьзе даў 1.836.000 р.

### У ўсебеларускім пажарным т-ве.

За год працы ўсебеларускае пажарнае т-ва дабілася значных посьпехаў у справе арганізацыі пажарных дружын на мясцох, а таксама правяло аб'яднаньне пажарных працоўнікоў БСРР у свой саюз.

Да сучаснага маманту да саюзу ва ўсіх акругах далучылася 200 арганізацый, у якіх налічваецца 9000 сябр.

### Прырост насельніцтва ў Менску.

Менскі ЗАГС у працягу студзеня зарэгістраваў па г. Менску 376 нарадзін і 150 сьмерцяў.

Такім чынам, за студзень насельніцтва ў Менску павялічылася на 226 чалавек, у тым ліку жанчын—104, мужчын—122.

### Новы тарыф аплаты пісем.

З лютага на пошце ўведзены новы тарыф аплаты пісем, а іменна: звычайнае пісьмо—8 кап., заказное—18 кап., звычайнае пісьмо за межы — 14 кап., заказное—28 кап.

# Беларусы у Латвіі.

### Як у вас, так і ў нас.

Чытаючы № 4 (17) газэты „Беларуская Ніва", мяне прывабілі дзьве стацьці: гэта „Што казаў сьляпы дзед" і „Гутарка сялян". Магу шчыра сказаць, што гэтыя гутаркі беларускіх сялян з - пад Польшчы вельмі падобны на гутаркі нашых сялян і працоўных места з-пад латышскае акупацыі.

Якраз і ў нас, хто чытае вашу газэту і газэту „Сялянская Ніва", то першым чынам страшэнна шкадуюць, што некаторыя нашыя паслы разбіваюць на дзьве варожыя групы нашае сялянства і работнікаў, бо гэта вельмі шкодзе агульнай беларускай справе — справе вызваленьня нашага сяляніна з няволі ў абшарніка, як польскага, так і латышскага, а таксама вызваленьня працоўных места з-пад ярма буржуазіі.

Як відаць з газэты „Сялянская Ніва", паслы сялянскага хаўрусу жадаюць дружбы з літвінамі і латышамі, інакш кажучы—з латышскай і літоўскай буржуазіяй,—з тымі, якія ўціскаюць нашую беларускую меншасьць, з якіх цяпер сялянскі саюз злажыў урад, латышчаць нашае беларускае насяленьне, зачыняючы беларускія школы і адчыняючы латышскія, робяць штучныя працэсы, дзеля таго, каб як-небудзь аслабіць і зьніштожыць наш рух.

Дзеля таго, што наша маса па свайму сацыяльнаму палажэньню і ў нас і ў вас аднолькава—бадай выключна бедната, — нам ня прыходзіцца рупіцца толькі аб сялянстве, а ня трэба забываць і працоўных места: гэтыя мазолістыя рукі, якія складаюць 25 процантаў нашага жыхарства. Бо толькі работнік і селянін у барацьбе за Сялянска-Работніцкі Саюз даб'ецца свайго сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня.

А таму прадстаўнікі Рабоча - Сялянскай Грамады зьяўляюцца шчырымі барацьбітамі за вызваленьне нашых паняволеных бедных мас і лепшую будучыню нашае Бацькаўшчыны. А газэта „Беларуская Ніва" задаваляе нашу працоўную гушчу, так як і беларускія масы сялян і работнікаў пад Польшчай. **Дземенскі.**

# Юрыдычныя парады.

### Гінаку.

Калі маніцёся будаваць склеп на старым мейсцы, то забараніць ніхто ня можа.

### Падпішчыку 156.

Калі старшы брат даверанасьці ад таго, што ў Расеі, ня маець, то адабраць палавіну яго долі ня можна, хіба толькі зложыць мэтрыку сьмерці малодшага, калі той памёр.

### Грам. Т. П.

Права свае ўжо страцілі.

### Кавалеўскаму.

За трыманьне аружжа без дазволу накладаецца кара ў адміністрацыйным парадку, а аружжа могуць сканфіскаваць.

### Казіміруку.

Страты можна спаганяць судом ад таго, хто павінен трымаць мост у парадку; калі гэта належыць да абавязкаў Павятовага Сойміку, то ад Сойміка.

### Падпішчыку 2406.

Не.

# Усячына.

### Дагістарычнае насеньне.

У Маскоўскай і Кастрамской губ., у тарпяных падглебных плястох, якія геолёгіі лічаць плястамі міжлёдавіковага пэрыяду, знойдзена насеньне рэдкай трапічнай расьліны—„пурпуравай бразініа". Гэта расьліна цяпер расьце толькі ў трапічных краінах усходняе Азіі і Амэрыкі. Гэта цікавая батанічная знаходка сьведчыць, што паміж двума лёдавіковымі прыядамі паверхня сучаснай Сярэдняй і Паўночнай часткі СССР мела мягкі трапічны клімат.

### Горад „Залатой арды".

У гор. Наровчатэ на Волзе, у часе раскопак, знайшлі татарскі горад, часоў канца XIII стагодзьдзя, эпохі Залатой арды. Пры раскопках знойдзена многа цікавага глінянага начыньня і розных манэт. Каля гораду былі вялізныя могілкі і мячэць.

### Сеткі для лову аэрапланаў.

Японскае вайсковае міністэрства нядаўна зрабіла вопыты з ужываньнем лёгкіх паветраных сетак прымацованых да парашутаў для барацьбы з аэрапланамі. Парашуты з нацягнутай між імі сеткай, выкідаюцца ў зложаным выглядзе са спэцыяльных гармат. Узьляцеўшы на значную вышыню, яны пачынаюць падаць, раскрываюцца і, пасьля гэтага, ціха апускаюцца ўніз, заплутваючы сеткай прапэлер аэраплана.

# Паштовая скрынка.

**Атрымана:**

Ад: — Сяргея Бурлыкі, Пятра Мароза, Мікалая Дзейкі, Зьмітра Гісіча, Е. Юрчука, Аўгена Мамчыца, Міхала Сурмача, Мікаля Казлоўскага, Мацея Шапавала, Рамана Дараховіча, Нікіпара Бакі, Тамаша Мышкі, Сьцяпана Сокала, П. Даманскай, Базыля Шпака, Аляксандра Жылінскага, Якуба Тамільчыка, Рыгора Саваша, Сяргея Багданчука, Яна Мукасея, В. Уладзіміграва, Антона Яцкевіча, Язэпа Крэнца, Язэпа Лісэты, Язэпа Грыгарчука, Станіслава Бартасэвіча, Якіма Стэцкага, Касьцялкоўскага, Глафіры Пілецкай, Аўг. Мітке-віча, Аляксандра Вашкевіча, Яна Венскага, Цупрыяна Макуцэвіча, Сьцяпана Цюнчыка, Яна Ласёнка, Мікалая Жыня, Хвёдара Абрамчука, Пятра Прадухі, Адама Кулакоўскага, Тамаша Чычкі, Бэнэдыкта Мышкевіча — **па 2 злотых.**

Ад:—Філарэта Клаўсуця, Мацея Семашкевіча, Яна Попкі, Сьцяпана Пагуды, Аляксандра Дараховіча, Мікалая Адамовіча—**па 3 злотых.**





Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.